*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

Якуб Колас

# Народная Воля

№ 127 (249)

Субота, 26 ліпеня 1997 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец — ТАА "Народная воля"
Кошт: у кіёсках і крамах — 2000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.




**Сонца**

| | Усход | Захад |
|---|---|---|
| Віцебск | 4.55 | 21.15 |
| Магілёў | 5.01 | 21.08 |
| Гомель | 5.05 | 20.58 |
| Мінск | 5.12 | 21.19 |
| Гродна | 5.28 | 21.33 |
| Брэст | 5.36 | 21.26 |

*Апошняя квадра 28 ліпеня.*



# Гаспадаркі паўднёвых раёнаў распачалі жніво

## Хлеб ёсць, трэба толькі яго ўзяць. Як лепш гэта зрабіць?

*Менавіта гэтая пазіцыя пакладзена ў аснову стратэгіі сёлетніх уборачных работ. Аб ёй наш карэспандэнт гутарыць з* ***намеснікам начальніка Галоўнага ўпраўлення раслінаводства Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Вячаславам Герасімовічам.***

**— Вячаслаў Аляксеевіч, што чуваць пра жніво?**

— Гаспадаркі шэрагу паўднёвых раёнаў ужо распачалі яго.

**— Якіх?**

— Петрыкаўскага, Лоеўскага, Рэчыцкага, Брагінскага, Маларыцкага, Брэсцкага... Пакуль мы з вамі гаворым, у яго ўключаюцца і іншыя.

**— Якія першыя намалоты?**

— Хачу адзначыць, што ўборка пакуль вядзецца выбарачна, на падгарэлых участках. Словам, не на лепшых. Атрымліваем каля 3 тон зерня з гектара.

**— А якія ў цэлым віды на ўраджай?**

— Па прыкідцы навукоўцаў і спецыялістаў, павінны сёлета сабраць на мільён тон зерня болей, чым летась.

**— Словам, будзем з хлебам?**

— Так, хлеб ёсць. Галоўнае цяпер — узяць яго. На гэта і накіравана ўся стратэгія ўборачных работ.

**— У чым галоўная сутнасць стратэгіі?**

— Выключна дакладна арганізаваць справу, каб тэхніка не ведала прастояў. І па-другое, убіраць ураджай якасна, без страт.

**— Відаць, нейкія абставіны падштурхоўваюць на такі падыход?**

— У апошнія гады парк уборачнай тэхнікі практычна не папаўняўся. Камбайны, жняяркі, абсталяванне на таках даволі зношаныя. Таму трэба падтрымліваць іх пастаянную гатоўнасць. Да таго ж нагрузка на камбайн прыпадае нямалая — 150 гектараў.

**— Якая была раней?**

— У "машэраўскія" гады ўдвая меншая.

**— Як жа на такой тэхніцы справіцца з такім аб'ёмам?**

— Усё вырашаюць людзі. Цяпер заканчваецца падбор кваліфікаваных кадраў — па два механізатары на кожны камбайн, каб уборка не спынялася і ў час абеду. Адзін абедае — другі ўбірае. Вырашаюцца праблемы з гаручым, запчасткамі.

**— Праблемы ёсць?**

— А калі іх не было? Не хапае пакуль сродкаў. Але вырашана, што пакупнікі сельскагаспадарчай прадукцыі, у прыватнасці жывёлагадоўлі, будуць аператыўна разлічвацца, і выручаныя грошы адразу пойдуць на набыццё неабходнага.

**— А як збіраецеся змагацца за якасць?**

— Добрай аплатай за ўборку без страт. Той, хто не губляе ў полі зерне, і будзе атрымліваць добра. Павышаецца кантроль і адказнасць за выконваемыя работы.

**— Адчуваецца, што стратэгія выпрацавана даволі прадуманая. Што ёй папярэднічала?**

— Грунтоўны аналіз мінулагодніх работ. Напярэдадні жніва адбылася сустрэча міністра з лепшымі камбайнёрамі, якія намалацілі летась болей за тысячу тон зерня. Яны і падказалі шэраг карысных прапаноў, на аснове якіх і выпрацаваны план дзеянняў.

**Іван МАКАЛОВІЧ.**

# Иван Антонович вернулся из Туниса

Состоялся официальный визит министра иностранных дел Республики Беларусь Ивана Антоновича в Тунисскую Республику.

Глава белорусского внешнеполитического ведомства встретился с премьер-министром Туниса Хамедом Каруи, председателем палаты депутатов Хабибом Буларесом, министром торговли Мандером Знайди, министром промышленности Саллахэддином Буагра.

В ходе визита было передано личное послание президента Республики Беларусь Александра Лукашенко президенту Тунисской Республики Зин Аль-Абидину Бен Али, в котором содержится оценка состояния и перспектив развития двусторонних отношений.

По итогам переговоров с министром иностранных дел Туниса Абдеррахимом Зуари подписан Протокол о консультациях между министерствами иностранных дел двух стран. Иван Антонович пригласил Абдеррахима Зуари посетить Беларусь с визитом.

**Ходят слухи...**

# Тамаре Винниковой предстоит операция?



Узнать что-то новое о деле бывшего председателя Нацбанка республики Тамары Винниковой по-прежнему остается невозможным. Чиновники из прокуратуры предпочитают держать журналистов в неведении и отказываются от комментариев. Свое молчание они объясняют тем, что, пока ведется следствие, любая информация может нанести вред делу и дать основания для толков типа "без меня меня же и судили". В Генеральной прокуратуре журналистов заверяют в том, что следователи держатся в стороне от прессы еще и потому, что сама Тамара Дмитриевна болезненно воспринимает любую информацию в газетах, касающуюся ее.

Тем не менее в столице поползли слухи, что здоровье госпожи Винниковой ухудшается. И ей даже предстоит в ближайшее время операция. А зная, какой детективный сюжет носит дело еще недавнего главного банкира страны, слухи пополняются домыслами, что операция, исход которой может быть самым неожиданным, на руку некоторым высокопоставленным чиновникам, чьи имена внесены в тайные дневники госпожи Винниковой. В случае их огласки приближенным к власти господам придется поменять служебное кресло уютного кабинета на нары следственного изолятора.

Но это только слухи. Правда, развеять их, к сожалению, в Генпрокуратуре не пожелали.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

**На снимке:** *трудно поверить в то, что эта прекрасная леди, обожаемая в свое время первыми лицами республики, вот уже несколько месяцев томится в следственном изоляторе.*

*Анатоль ВЯРЦІНСКІ*

# Па чым плакалі скрыпкі, або Несвяточны лёс Дня незалежнасці



Набліжаецца 27 ліпеня — чарговая, сёмая па ліку, гадавіна з дня прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі і абвяшчэння гэтага дня нацыянальным святам — Днём незалежнасці.

"Якая яшчэ гадавіна? — можа перабіць мяне нецярплівы чытач. — Толькі што шумна адзначылі ўсе гадавіны — вызвалення Мінска і яго заснавання, заснавання Клецка, запачаткавання "Славянскага базара", "трыумфальнага" абрання першага прэзідэнта... Якая яшчэ гадавіна! Аб чым гаворка?"

Перапрашаю нецярплівага (ці, можа, нецярпімага) чытача і працягваю. Гаворка вось аб чым. 27 ліпеня 1990 года Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь 12-га склікання прыняў на сваёй першай сесіі важны палітычна-прававы акт — Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь. На момант прыняцця — будзем фактаграфічна дакладнымі — яна называлася: "Дэкларацыя Вярхоўнага Савета Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі". Дакумент адкрываўся прэамбулай наступнага зместу: "Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі,

выяўляючы волю народа Беларускай ССР,

усведамляючы адказнасць за лёс беларускай нацыі,

пацвярджаючы павагу годнасці і правоў людзей усіх нацыянальнасцей, якія жывуць у Беларускай ССР,

сведчачы павагу да суверэнных правоў усіх народаў Саюза ССР і свету,

лічачы рэспубліку паўнапраўным і незалежным членам сусветнага супольніцтва,

дзейнічаючы ў адпаведнасці з прынцыпамі Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і іншымі агульнапрызнанымі міжнародна-прававымі актамі,

урачыста абвяшчае поўны дзяржаўны суверэнітэт Беларускай ССР як вяршэнства, самастойнасць і паўнату дзяржаўнай улады рэспублікі ў межах яе тэрыторыі, правамоцнасць яе законаў, незалежнасць рэспублікі ў знешніх зносінах, і заяўляе аб рашучым намеры ствараць прававую дзяржаву". Палітычна важкія, знамянальныя, вартыя па сваіх духу і літары, гістарычных скрыжаляў словы. Гэта ж можна сказаць і адносна, напрыклад, першага з дванаццаці артыкулаў Дэкларацыі, дзе зазначаецца, што Беларусь — "суверэнная дзяржава, якая ўсталявана на аснове ажыццяўлення беларускай нацыяй яе неад'емнага права на самавызначэнне, дзяржаўнасці беларускай мовы, вяршэнства народа ў вызначэнні свайго лёсу".

Што нездавальняе ў Дэкларацыі яе сённяшніх крытыкаў? Можна здагадвацца — што. Ну ды пра гэта ніжэй.

Паколькі робяцца настойлівыя спробы сказіць і абылгаць тыя абставіны, у якіх прымалася Дэкларацыя, мушу нагадаць таксама, як было ў сапраўднасці, як яна выпрацоўвалася і зацвярджалася.

Рабілася ўсё гэта законна, дэмакратычна, галосна, у строгай адпаведнасці з кампетэнцыяй Вярхоўнага Савета рэспублікі і з рэгламентам яго працы. Ішла сесія, і на яе чарговым дзённым пасяджэнні, якое мела месца 20 чэрвеня (90-га, зразумела, года), была прынята, пасля непрацяглай дыскусіі, пастанова "Аб падрыхтоўцы Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР". Пунктам другім пастановы прадугледжвалася ўтварэнне камісіі па падрыхтоўцы Дэкларацыі. І ў той жа дзень, ужо на вячэрнім пасяджэнні сесіі, было абмеркавана і вырашана пытанне аб персанальным складзе камісіі ў колькасці 35 дэпутатаў на чале са старшынёй Вярхоўнага Савета М.І.Дземянцеем.

Камісія неадкладна прыступіла да працы. Я быў у яе складзе і добра памятаю: нягледзячы на тое, што ў яе ўваходзілі розныя па сваім сацыяльным становішчы і палітычнай арыентацыі людзі, распрацоўка праекта Дэкларацыі ішла без асаблівых ускладненняў, у дзелавой, а часам нават і ў прыўзнятай атмасферы і была паспяхова завершана ў даволі сціслыя тэрміны.

У другой палове ліпеня пытанне аб прыняцці Дэкларацыі, як першачарговае, было ўключана непасрэдна ў парадак дня сесіі. Паколькі яе ход шырока асвятляўся па тэлебачанні, радыё і на старонках друку, то чытач, мяркую, памятае, як ішло абмеркаванне, як прымалася Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце краіны. Канчатковы тэкст яе, нагадаю, нараджаўся ў вострай дыскусіі, у сутыкненні розных падыходаў і пазіцый, у пошуках агульна-прыймальных на той час фармулёвак, азначэннях, асобных слоў. І ўрэшце кампраміс быў дасягнуты, і 27 ліпеня, у пятніцу, на ранішнім пасяджэнні вышэйшага заканадаўчага органа Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь была прынята.

Быў прыняты важны, лёсавызначальны для краіны палітыка-прававы акт. І абсалютна лагічным і правамерным было прыняцце на тым жа памятным пасяджэнні яшчэ аднаго дакумента — пастановы наступнага зместу:

"Надаючы гістарычную важнасць прыняццю Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР 27 ліпеня 1990 года, Вярхоўны Савет БССР **пастанаўляе:**

Лічыць дзень 27 ліпеня Днём абвяшчэння Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР (Днём незалежнасці) і адзначаць яго надалей як нацыянальнае свята Беларусі".

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

**Эканамічны агляд**

# Як жывецца беспрацоўнаму?

Спачатку пацікавімся другім пытаннем: колькі іх у нас? Калі верыць афіцыйнай статыстыцы, дык 157,4 тысячы чалавек, або 3,4% ад эканамічна актыўнага насельніцтва. Зусім не многа. Толькі верыцца ў гэтыя лічбы з цяжкасцю. Бо ўсім вядома пра схаванае беспрацоўе. Паглядзім на яго.

Аказваецца, у рэжыме не поўнага рабочага часу ў студзені — маі сёлетняга года працавала 221,3 тысячы рабочых (5,8% агульнай колькасці працаўнікоў). 212,5 тысячы чалавек (5,6%) знаходзіліся ў вымушаных адпачынках па ініцыятыве адміністрацыі, у тым ліку без захавання зарплаты — 99,5 тысячы чалавек. Складзем 5,8% і 5,6% і атрымаем 11,4% так званага схаванага беспрацоўя. Такім чынам, армія беспрацоўных складае (11,4%+3,4%) — 14,8%. А гэта ўжо не мала. Столькі людзей не маюць нават мізэрнага заробку.

### Проста смешныя выплаты

А выплаты па беспрацоўю проста смешныя. Яны складаюць 197,3 тысячы рублёў. Скажыце, як пражыць месяц на такія грошы? Яны ж складаюць толькі дзесятую частку ад сярэдняга заробку. Цікава, чым кіраваліся чыноўнікі, калі вызначалі менавіта такую суму грошай для беспрацоўнага?

### На адно месца — па 8 прэтэндэнтаў

Гэта вымушае беспрацоўнага настойліва шукаць хоць якую працу. Але знайсці яе не проста. У чэрвені на адно свабоднае месца прэтэндавала па 5 беспрацоўных. З дапамогай службаў занятасці з пачатку года працаўладкавана 71,1 тысячы беспрацоўных, ці 24,5% ад іх агульнай колькасці. Прафесійнае навучанне ці перападрыхтоўку змаглі прайсці толькі 11,4 тысячы чалавек. Больш за ўсіх беспрацоўных у Гомельскай вобласці (30,9 тысячы чалавек), меней — на Брэстчыне і ў Мінску (адпаведна 17,2 і 18 тысяч чалавек). Цяжэй за ўсё ўладкавацца на работу на Віцебшчыне. Тут на адно месца па 8 прэтэндэнтаў. Лягчэй у Мінску. На адно месца — усяго па два жадаючых, на Брэстчыне — па 6.

**Яўген ТАЎГЕНЬ.**

**Провинциалка**

### Лом, который убивает лошадь

Крупная партия сигарет задержана на контрольно-пропускном пункте "Козловичи". Согласно сопроводительным документам, в грузовиках через границу следовал алюминиевый лом, что подтверждалось отметкой Московской таможни. Но помимо кармана у настоящего таможенника имеется поистине собачье чутье. Помимо лома в одной из машин было обнаружено 250 тысяч пачек сигарет "West" на сумму более 3 миллиардов рублей.

### Полет над гнездом дурашки

Скоро исполнится два года со дня трагического полета американских воздухоплавателей Джона Джервиса и Алана Дренкела над Березовским районом. Идиотский расстрел спортсменов-любителей едва ли не в первый раз привлек внимание мировой общественности к творящимся в Беларуси не понятным цивилизованному миру вещам. Пока дипломаты пикируются с межгосударственной экспертной комиссией, жители Березы сердобольно захоронили остатки корзины и шара, а у насыпи поставили огромный камень. Помимо даты и очертаний креста на нем имеется всего одно слово: "ПРАБАЧЦЕ..."

### Польская смерть брестских "челночниц"

Трагически прервался очередной польский вояж трех 24-летних брестчанок. Они везли на продажу очередную распиханную по тайничкам партию спирта и сигарет, радуясь тому, что в этот раз им улыбнулась удача — в лице знакомого кобринского предпринимателя с машиной. Но на подъезде к Белой Подляске случилось страшное: их "Фольксваген-Пассат" столкнулся с польским микроавтобусом и в мгновенье вспыхнул трагическим факелом. Получасом позже полиция обнаружила в сгоревшем автомобиле четыре обуглившихся трупа и чудом уцелевшие паспорт гражданки Республики Беларусь и технический паспорт на автомобиль. Это стало отправной точкой для установления личностей погибших. В тот же день в четыре семьи пришла весть о горе. У каждой из женщин осиротели маленькие дети.

**Подборку подготовила Анна ШАХОВА.**

**Праблема!**

# З кім і як гандлюем?

Цяпершанія ўлады не ўмеюць гандляваць. Гэта відавочна ў люстэрку лічбаў. Расце адмоўнае сальда знешнегандлёвага абароту. За першае паўгоддзе яно склала 815 мільёнаў долараў. Калі і далей справы пойдуць такім чынам, а ўсе прыкметы схіляюць менавіта да гэтага, дык краіна хутка застанецца без валюты. Не будзе за што купляць лекі, чым аплачваць расійскія газ і нафту, а значыць, і не будзе чым ацяпляць кватэры.

Галоўным гандлёвым партнёрам Беларусі з'яўляецца Расія (55,5% ад усяго аб'ёму тавараабарота). Далей ідуць Украіна (9,9%), Германія (6,3%), Польшча (3%), Літва (2,3%), ЗША (1,7%), Італія (1,4%).

Нам бясконца даказваюць, што нашымі самымі лепшымі гандлёвымі партнёрамі з'яўляюцца краіны СНД, асабліва Расія. А вось лічбы малююць зусім іншую карціну. Вынікі гандлю менавіта з краінамі садружнасці выклікаюць найбольшы неспакой. З 815 мільёнаў долараў адмоўнага сальда на краіны СНД прыпадае 567 мільёнаў — львіная доля. Самы горшы баланс складваецца з нашым самым лепшым сябрам — Расіяй. Адмоўнае сальда з ёю складае аж 355 мільёнаў долараў, амаль каля паловы ўсёй сумы. Мала радасці прыносіць гандаль з Азербайджанам, Казахстанам, Кыргызстанам, Малдовай. Усе ўмудрыліся сбыць нам сваю прадукцыю і адмовіліся ад нашай. У выніку — адмоўнае сальда. А можа, нашы гандляры такія няўмелыя?

Ну як зразумець такое? У першым паўгоддзі ўвоз з Расіі малака і малочных прадуктаў павялічыўся ў 18,1 раза. Нашы ж "чаўнакі" вязуць туды смятану і тварог, а ўлады — адтуль. Цікава, што па даных Міністэрства статыстыкі і аналізу за першыя шэсць месяцаў у гаспадарках краіны закуплена малака на 16% болей, чым летась. У насельніцтва закупкі малака ўзраслі на 35%. Навошта ж тады ў Расіі павялічваць яго закуп аж у 18 разоў? Ці не праўда, загадкава?

Мяса і мясных прадуктаў закуплена ў Расіі ў 6 разоў болей, халадзільнікаў і маразільнікаў — у 8,4 раза, грузавікоў — у 10,9 раза... Што, у нас сваіх такіх рэчаў не хапае? А мабыць, гэта некаму вельмі выгадна?

З краінамі так званага далёкага замежжа гандлёвыя справы складваюцца лепей. З Польшчай у нас станоўчае сальда. З Латвіяй таксама. З многімі партнёрамі калі і адмоўнае, дык невялікае. Так, з Італіяй "мінус" складае 31 мільён долараў, з ЗША — 22 мільёны.

Усё-такі цікавая рэч — лічбы. Яны на многае раскрываюць нам вочы.

**Яўген ТАЎГЕНЬ.**



*А.Лебедько, депутат Верховного Совета Республики Беларусь 12-го и 13-го созывов, заместитель председателя Объединенной гражданской партии*

# Переговоры, или Разговор слепого с глухонемым

Начавшиеся 17 июня текущего года консультации между представителями Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва и президентом Беларуси при посредничестве Евросоюза реально претендуют на то, чтобы войти в тройку главных событий политического межсезонья. Если о событии говорят, пишут, спорят, критикуют, значит, оно состоялось.

### Участие или бойкот

Неудивительно, что переговоры проходят под аккомпанемент дискуссии о целесообразности и возможности контактов с официальными властями, давно блуждающими по взрывоопасному полю правового беспредела, беззакония и морально-нравственных нечистот. В этой ситуации полезно пропустить эмоции, страсти, заклинания через жесткое аналитическое сито.

Надо признать, что суверенная Беларусь не имеет серьезного опыта, традиций разрешения кризисных ситуаций через механизм диалога и не знает прецедентов, когда бы компромисс был достигнут за столом переговоров. Отсюда дефицит культуры ведения переговоров, дряблость политической воли, подверженность эмоциям и элементарное мошенничество.

Осенью 1995 года, в период первого парламентского кризиса, была предпринята попытка поиска компромисса между президентом и демоппозицией через форму "круглого стола". Длительная подготовительная работа, однако, осталась невостребованной. В последний момент Лукашенко отказался от переговорного процесса. Власть сделала откровенную ставку на силовое решение проблемы. И проиграла. Вопреки президентской воле, народ пришел на избирательные участки и избрал легитимный Верховный Совет 13-го созыва. Урок не пошел впрок.

Через год исполнительная власть спровоцировала второй парламентский кризис. Попытка предотвратить надвигающуюся трагедию путем переговоров между президентом и Верховным Советом при посредничестве российской "тройки" (Черномырдин, Строев, Селезнев) закончилась фиаско. Власть оказалась не способной осилить азбуку цивилизованного диалога.

Осенью 96-го Лукашенко выиграл с применением запрещенных приемов локальную битву, но проиграл перспективу. Уже 10 апреля 1997 года белорусский президент обращается к Европейскому Союзу за содействием по совершенствованию Конституции 1994 года. В середине мая на Беларусь из Брюсселя приезжает специальная миссия во главе с г-ном Косто. Евросоюз инициирует переговоры между президентом Лукашенко и Верховным Советом.

В этой ситуации участие Верховного Совета в консультациях выглядит логичным и закономерным. Договорная идея имеет массовую поддержку. Большинство граждан республики видят в переговорах выход из нынешнего политического и конституционного кризиса. Это утопия, но это и сегодняшняя реальность. Нельзя не считаться с общественным мнением. К тому же, несмотря не колоссальные усилия, предпринимаемые президентской "вертикалью", ей не удалось создать ситуацию всенародной ненависти к Верховному Совету, к оппозиции.

Во-вторых, отказ от участия в переговорном процессе дал бы Лукашенко дополнительные возможности для политического маневрирования и всевозможных спекуляций на предмет "перевоспитания" и готовности идти на реальные демократические преобразования. Переиграть А.Г. в заочной дуэли невозможно. Только контактная борьба дает шанс на успех.

В-третьих, нельзя забывать, что инициатива консультаций исходит от международных европейских организаций. Мы не должны лишать их возможности еще раз удостовериться, кто является источником кризиса, причиной правового Чернобыля в Беларуси, кто не способен на поиск компромисса.

### Участники переговорного процесса

Находящиеся за столом переговоров должны соответствовать двум критериям: а) обладать легитимностью, б) быть реальным субъектом политической жизни. И президент, и Верховный Совет соответствуют этим требованиям. Можно спорить, но сегодня нет



юридических оснований считать Лукашенко нелегитимным. Пока не будет выполнена, хотя бы формально, установленная законодательством процедура по отстранению президента от власти, до 1999 года Лукашенко останется главой государства. Легитимность А.Г. может ускорить только специальная комиссия Верховного Совета по оценке действий президента А.Лукашенко, нарушающих Конституцию.

Президентская сторона не случайно настаивала, чтобы в переговорах принимала участие "вся оппозиция". Лукашенко хотел избежать признания легитимности Верховного Совета и завязать на провал диалога оппозиционные политические партии, обвинив их в неконструктивизме. Эту часть переговорного процесса президент проиграл. Неуклюжие попытки подсадить в вагон с табличкой "МИНСК — БРЮССЕЛЬ через ПЕРЕГОВОРЫ" "ноябристов" и "чикинцев" провалились. У последних не оказалось ни билетов (легитимности), ни денег (реального политического веса), да и поезд уже набрал скорость.

Особая роль в переговорах принадлежит представителям Европейского Союза. Им предстоит не только выполнить функции экспертов, но и восстановить в Беларуси доверие к институту посредников, дискредитированное осенью прошлого года руководителями Российской Федерации. Состоявшиеся два раунда переговоров вселяют осторожный оптимизм. Эксперты дорожат своей репутацией и не претендуют на звание мастеров закулисных интриг.

### Предмет консультаций

Это оселковый вопрос переговоров. Не определив цели и задачи, рассчитывать на успех невозможно. При наличии политической воли и заинтересованности в результативности диалога сделать это несложно. Предмет консультаций — то, что является причиной кризиса. Конституция 1994 года — материал для работы. Ее усовершенствование — главная задача. Цель происходящего — восстановление в Беларуси законности, парламентаризма, прав и свобод граждан в полном объеме, возвращение Беларуси в Европу, в интеграционные европейские процессы.

К сожалению, президентская сторона по иному определяет цели и задачи переговоров. Лукашенко намеревается потянуть время и под предлогом начала диалога выторговать себе некоторые послабления. Он не прочь подретушировать свой крайне отрицательный имидж, сложившийся в европейских столицах. Лукашенко надеется заболтать, уговорить, взять измором Европу. Для него это очередная игра, и не более.

Переговоры — это компромисс. Он всегда находится где-то посередине. Каждый должен быть способен пройти свою половину пути. Верховный Совет готов это сделать. И в этом его огромное преимущество перед президентом.

А.Лукашенко способен, на мой взгляд, лишь принести в жертву свой карманный нелегитимный "парламент".

### Запрограммированная неудача

Переговоры изначально обречены на неуспех. Объяснение этому — ряд причин. Авторитарная система власти в принципе не приемлет переговорный процесс, компромисс как метод управления. Авторитаризм — это диктатура силы, страха, насилия. Послевоенная история не знает примеров, когда бы генсек, диктатор, путчист добровольно отказался от части своих властных полномочий.

Следует также учитывать личностные качества Лукашенко. А.Г. на практике доказал, что власть для него — наивысшая ценность. Ему нужна не просто власть, а вся власть и власть над всеми — министром и домохозяйкой, студентом и пенсионером, инвалидом и олимпийским чемпионом. Ему нужны только победы, пусть жертвенные и бессмысленные. Он панически боится поражения, ибо чувствует, что это развалит его империю "непросвещенного абсолютизма", державу челяди и придворных бомжей.

У власти налицо симптомы "болезни Мейсона". Поклонники "Санта-Барбары" помнят, что один из киногероев этого сериала страдал раздвоением личности. В одной плоти пробовали ужиться два совершенно разных человека. Эта же болезнь нынче свирепствует в высших эшелонах государственной власти Беларуси. Сегодня говорят одно, завтра — совершенно противоположное. В апреле приглашают европейцев совершенствовать Конституцию 1994 года, а в июне отрекаются от слов, заверенных собственной подписью.

Не излечившись от недуга, бессмысленно садиться за стол переговоров.

### Некоторые возможные последствия переговоров

1. В проигравших несомненно окажутся страна и народ. Переговоры — едва ли не последний шанс договориться в цивилизованных формах, без крика и мордобоя, найти компромисс, преодолеть кризис. Эксперимент над Беларусью продолжается.

2. Дистанция непонимания и недоверия между Минском и евростолицами увеличится. Имидж Лукашенко — неодиктатора, властолюбца, политика, не способного к диалогу, укрепится.

3. Конец переговоров, возможно, станет кому-то закатом министерской или чиновничьей карьеры. Кто-то должен выполнить роль громоотвода в неудачных для властей консультациях.

4. Вне зависимости от результатов переговоры ускорят "похороны" обитателей белорусской Палаты (политически они умерли еще в ноябре прошлого года).

